 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1216) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 17 ЧЭРВЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Хор Беластоцкай медыцынскай акадэміі ў супольным з Беластоцкім камерным аркестрам выступленні пад кіраўніцтвам Р. Зялінскага.* *Фота Е. Ляшкевіча.*

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# СПЯВАЮЧЫЯ МЕДЫКІ

Прасторная колішняя танцавальная зала ў палацы Браніцкіх. За высокімі вокнамі сіні веснавы вечар. У салідных, каваных падсвечніках палахліва дрыжаць мігатлівыя пламеньчыкі, дабываюць са сцен то гарачы бляск пазалоты, то халодную бель барэльефаў у стылі барока. З бездані куткоў высоўваецца хісткі і ўсёпаглынаючы змрок. Магутная хваля рэнесансавага гімна „Gaude, Mater Polonia" („Цешся, Маці Польшча") сваёй веліччу прыціскае да крэсел некалькі соцень слухачоў, сатрасае іх глыбінёй пачуцця, акунае ў тое даўняе, беспаваротна адышоўшае XVI стагоддзе, прамаўляе яго жывой песняй. І так што ні твор, то праўдзівейшы голас эпохі, непасрэдна мова асяроддзя, найбольш яркі выраз кампазітара. І гэта ў аднолькавай ступені ці будуць то з XVI стагоддзя французскія шансоны, італьянскія мадрыгалы тае ж пары, рамантычныя творы Р. Шуберта з пачатку XIX стагоддзя, лірычныя або жартоўныя польскія народныя мелодыі, вогненныя напевы Андалузіі ці тыя набожныя песні амерыканскіх неграў, з якіх узяў свой пачатак джаз. Мне даводзілася пабываць на некалькіх выступленнях хору Беластоцкай медыцынскай акадэміі пад кіраўніцтвам **мгр Рамана Зялінскага**, і заўсёды я выносіў з іх самыя прыемныя ўражанні. Аднак той канцэрт, што адбыўся ўвечары 29 красавіка гэтага года ў сувязі з адзначэннем харыстамі пяцігоддзя працы з іхнім калектывам Р. Зялінскага, мяне проста запаланіў сваім выканаўчым майстэрствам. Гэта было нешта незвычайнае! Я і раней не дзіваваўся, а цяпер цалкам перакананы, што зусім заслужана хор беластоцкіх медыкаў залічаецца да першай пяцёркі самых лепшых студэнцкіх хораў у Польшчы.

Р. Зялінскі, сам родам з Чэнстаховы, пасля заканчэння ў 1972 г. Кракаўскай вышэйшай музычнай школы, працаваў нейкі час у Паморскай філармоніі і блізка пазнаёміўся з творчай працай Быдгашскай капелы. У 1973 г. ён пераязджае ў Беласток і пяць год працуе другім дырыжорам Беластоцкай філармоніі. Тут у яго на варштаце з'яўляецца вялікі сімфанічны рэпертуар. Здабывае ён каштоўны вопыт у кіраванні вялікім калектывам, удасканальвае сваё дырыжорскае майстэрства і... запускае карэнні ў тутэйшую глебу. Год таму назад ён арганізаваў пры Беластоцкай эстрадзе і ўзначаліў Камерны аркестр, нядаўна ж апрацаваў заснаваную на рускіх народных мелодыях музыку да спектакля „Тэатр Гарлекіна" ў Беластоцкім лялечным тэатры.

— З хорам Медыцынскай акадэміі я пачаў працаваць, перш за ўсё імкнучыся захаваць і працягваць найлепшыя традыцыі гэтага калектыву, — расказвае Р. Зялінскі. — Іменна гэта ёсць яго фундамент, аснова, на якой ён абапіраецца ў сваёй дзейнасці. Бо і чым жа, як ні ўлюбёнасцю да спявання даўняй рэнесансавай музыкі, цягай да глыбокіх і цікавых тэкстаў, няспынным імкненнем да выканаўчай дасканаласці можна вытлумачыць тое, што хор дзейнічае ўжо 15 год. За гэты час у ім змя-

Працяг на стар. 4

# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

27 мая ў Бельскім доме культуры адбыўся фінал вялікага чытальніцкага конкурсу „Праца і барацьба беларускага народа на працягу 60 год у беларускай савецкай літаратуры". Арганізатарамі конкурсу, які працягваўся ад месяца красавіка 1978 года да мая 1979 года, былі Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Ваяводская публічная бібліятэка і рэдакцыя „Нівы". Уключыліся ў арганізацыю і правядзенне яго гарадскія, гмінныя публічныя бібліятэкі супольна з гурткамі БГКТ. Асноўнай мэтай конкурсу была папулярызацыя твораў беларускай савецкай літаратуры.

У конкурсе былі два этапы: раённы і фінальны. Удзельнікі яго маглі выбраць адзін з пяці конкурсных саставаў па выбраных творах беларускай савецкай літаратуры. Любіцелі беларускай літаратуры мелі магчымасць выявіць свой талент і задаволіць зацікаўленні.

Са звыш васьмісот удзельнікаў конкурсу ў фінал закласіфікавана чатырнаццаць асоб, пераможцаў у раённых элімінацыях. Фінал праходзіў на дзвюх ступенях: першай — пісьмовай (у часе яе ўдзельнікі адказвалі на сем пытанняў аб дзейнасці і творчасці вядучых беларускіх савецкіх пісьменнікаў, як Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, В. Быкава, А. Куляшова, І. Шамякіна, К. Крапівы, К. Чорнага, Я. Брыля, М. Танка, А. Карпюка, І. Мележа і іншых, а таксама найважнейшых падзеях у грамадскім і культурным жыцці Беларускай ССР) і другой — вуснай (удзельнікі адказвалі на вылясаваныя імі тры пытанні па прачытаных творах). Адказы ўдзельнікаў ацэньвала трохасабовая камісія журы: Аляксандр Іванюк, Луцыя Гардзеюк і Людміла Лудзь-Хмялеўская. Прызнала яна два першыя месцы Галіне Пучко з белліцэя ў Гайнаўцы і Анне Хурсе з белліцэя ў Бельску, другое месца — Яўгеніі Нічыпарук з Плёскаў, трэцяе — Мікалаю Панфілюку з Дубічаў Царкоўных, чацвертае — Ірэне Несцярук з гайнаўскага белліцэя і пятае — Крыстыне Марціновіч з Грэдалёў. Удзельнікі былі добра падрыхтаваны і фінал конкурсу прайшоў на высокім узроўні. Узнагароды, прызнаныя арганізатарамі, атрымалі ўсе 14 фіналістаў.

У заканчэнне неабходна падзякаваць працаўнікам гарадскіх, мейскагмінных, гмінных, школьных і іншых бібліятэк, якія папулярызавалі конкурс. Яны вывешвалі адпаведна падрыхтаваныя і аформленыя аб'явы аб конкурсе і яго правілах у бібліятэках, арганізоўвалі выстаўкі твораў беларускай савецкай літаратуры, праводзілі індывідуальныя заахвочваючыя размовы з чытачамі. **(яц)**

Новыя вершы

## ВАРШАВЕ

Ці ж гэта не шчасця прыпынак?
Бы ў сэрцы тваім, жыць вяльможна
Між Гожаю і Жураўлінай,
Паміж Жураўлінай і Гожай!

Ты гожая ўся, Варшава,
Табой — не налюбавацца:
Налева іду, направа
Праз вуліцы, як палацы.

Плыве ў Вісле сіняй неба,
У ім — лістапад, як вырай.
А мне, мне пабыць тут трэба
І сэрцам, і думкай шчырай.

Герояў шчыт — шчыт Варшавы.
Скрозь надпісы — суму жнеі.
Ля помнікаў вечнай славы
Ў маўчанні і я мужнею.

Расце ў неба гмах за гмахам,
Рабочы лю[illegible] іх галубіць,
Прад велічным іх размахам
Каму працаваць не заруціць?!

Ды не ад рэклам-заранак,
Што скочваюць фарбаў ліўні, —
Ад поглядаў варшавянак
І я прыгажэю дзіўна.

І веру: зноў, зноў не раз я
З суседняй маёй Беларусі
Сюды, да цябе, як да ласкі,
Нібы журавель, вярнуся.

Дзень добры, скажу, як дзяўчыне,
Што сэрца і думкі трывожыць,
І Гожай і Жураўлінай,
І Жураўлінай і Гожай!...

**Алег Лойка**



*Лебедзі ў Бельску.* *Фота Я. Целушэцкага.*

 

 

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

# ВЯСЕЛЬНЫЯ ЧЫНЫ

Вяселле — гэта своеасаблівы тэатр з галоўнымі, другараднымі і эпізадычнымі героямі. Усё адбываецца вакол маладой пары, якая, хаця з'яўляецца ў цэнтры, то не з'яўляецца героем актыўным, а прычынай дзеяння. Трэба пачаць ад сватоў — зыходнага пункту вясельнага працэсу. Галоўнай постаццю гэтага этапу з'яўляецца сват. Традыцыя, вераванні, абраднасць на працягу часу стварылі пэўныя тыпы герояў, надзяляючы іх адпаведнымі рысамі характару, паводзінамі, уменнямі. Сват павінен быць гаваркі, носьбітам народнай мудрасці, добрым псіхолагам і аратарам. Ад яго залежаў далейшы ход вяселля. Ён ведаў, што, каб усё адбывалася паспяхова, у сваты трэба ехаць або між Трыма Каралямі і канцом мясніц, або між Вялікаднем і Тройцай ці Успеннем і піліпаўкай. Ведаў, што нельга ехаць па Дзмітры, бо народная прыказка гаворыць: „Да Дзмітра дзеўка хітра, а па Дзмітры хоць ты ж... вытры.“ Не вёз ніколі ў сваты ў панядзелкі, аўторкі, серады і пятніцы, таму што згодна з народным вераваннем „понэдіелок — бэздіелок“, ад панядзелка не пачыналі новай работы, „пойедэш во второк — обйедэш дівок сорок“, а ў сераду і пятніцу не ездзілі таму, што былі поснымі днямі.

Наступным вясельным чынам з'яўляецца маршалак. Гэта самая галоўная постаць вясельнага абраду. Ён быў цэлым гаспадаром — запрашаў за сталы, выклікаў да выезду на шлюб, прасіў на музыкі, адным словам, распачынаў кожны новы падраздзел вяселля. Таксама, як і сват, быў гэта чалавек энергічны, поўны гумару. І таму часта гэтую ролю выконвала адна і тая ж самая асоба. Выдзяляўся з рэшты вясельнікаў тым, што хадзіў перавязаны ручніком, трымаючы валок або апалонік. Быў ён у цэнтры зацікаўлення, асабліва дзяўчат, якія ў яго адрас спявалі шмат гумарыстычных песень.

Каля маладых сядзела іх світа — старшыя сваты, старшая дружка і старшая сванька (так называлася старшая дружка ў маладога). Усе яны маладыя, незамужнія і нежанатыя. Не адыгрывалі такой ролі, як маршалак, але ў вяселлі былі неабходнымі. Старшыя сваты ў час шлюбу трымалі над маладымі вянчальныя кароны, а старшая дружка і старшая сванька прышпільвалі вясельным госцям (мужчынскага полу) белыя банты. Старшыя сваты выдзяляліся ад рэшты доўгай перавешанай праз плячо белай стужкай.

Выступала і яшчэ адна сванька, але нельга яе нічуць атоесамліваць са старшай сванькай маладога. Па-першае, была яна абслугай з боку маладой, а, па-другое, была ёю заўсёды старэйшая замужняя жанчына. Заданнем яе было везці ў царкву плахту, на якой маладыя стануць да шлюбу, папраўляць кавалачак белага ручніка, што маладая, абыходзячы вакол прастола, цягне за сабой нагою, і раскідаць па вуліцы „гуску“. Яна таксама падрыхтоўвала вянчальныя свечы.

Наступнымі героямі вяселля былі героі калектыўныя — сваты і дружкі (з боку маладога — сванькі). Між дзвюма гэтымі групамі заўсёды завязвалася песенная ўзаемахарактарыстыка.

Наступным калектыўным героем была так званая „стуойка“ — людзі не запрошаныя, але прыйшоўшыя паглядзець. Стаялі яны, у залежнасці ад прынятага звычаю, або пад акном, або заходзілі ў хату. Нараджаўся песенны спор, які завязваўся паміж вясельнымі і „стуойкай“. Лягло гэта ў аснову ўзнікнення новых тэматычна твораў песеннага фальклору.

Потым далучаўся яшчэ адзін калектыўны герой — „пэрэзва“, або інакш „прыданэ“ — госці маладой, якія прывезлі яе падручны пасаг. Сустракалі іх таксама песнямі тыпу:

*Як прыданэ сіелі —*
*Похілілісь стены.*
*Як прыданэ нап'юцця,*
*То лавы погнуцця.*

Як відаць, вяселле мела цэлы свой адміністрацыйны апарат — маладыя са сваёй світай, маршалак, сванька, вясельныя госці, міні-блазны, якія рабілі дзеля смеху розныя фокусы, „стуойка“.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79



Міхал Артышэвіч. У фінальным аглядзе „Беларуская песня-79“ заняў першае месца сярод салістаў фальклорнай песні. (У мінулым нумары такі ж подпіс памылкова апынуўся пад здымкам Аляксандра Раманюка з Дубяжына, заняўшага першае месца ў катэгорыі сучаснай песні. Сардэчна перапрашаем).

Фота Я. Целушэцкага.

**УСПАМІНЫ (24)**

### НОВЫЯ ПРАГРАМЫ

6 красавіка адбыўся ваяводскі конкурс савецкай песні. Наша вакальная група атрымала толькі дыплом. Слаба. У мінулым годзе занялі мы другое месца.

Часам ездзім дзень у дзень. 6 красавіка былі на конкурсе савецкай песні ў зале ТППР у Беластоку, 5-га выступалі на фабрыцы імя Сяржана ў Беластоку, а 7-га ў тэатры імя Вянгеркі на ўступнай рэпетыцыі першамайскага канцэрта. Уцягнуліся ў гэтыя раз'езды. Шырэнне песні лічым сваім гонарам, доказам асабістай знаходлівасці. Сядзець на месцы — не для нас. Мы ж заручаныя з песняй.

У красавіку, у рамках прыгранічнага абмену, едзем у Вялікую Бераставіцу. Разам з намі едуць таксама калектыў з Пагажалак і лаўрэаты конкурсу савецкай песні з Чорнай Беластоцкай і Васількова.

Узяліся за праграму. Едзем жа за граніцу! Праграма была слоўна-музычная. Трэба было дапасаваць адно да другога.

18 красавіка адбылася ў Гарадку генеральная рэпетыцыя і тут жа, пасля яе, паехалі цераз Баброўнікі ў Вялікую Бераставіцу.

Жыхары Бераставіцы сустрэлі нас вялікай грамадой. На канцэрце першым выступаў наш калектыў. У нашай праграме была адна песня, якая магла тут выклікаць здзіўленне. Менавіта, рыхтуючыся да аднаго з конкурсаў, я адаптавала на свае патрэбы вядомую савецкую песню аб Нёмане. Нёман замяніла Віслай. І цяпер спявалі мы:

*Коціць у даль Вісла чыстыя воды...*

Песня канчалася словамі:

*Вісла з Варшаваю думкай*
*няспыннаю*
*Мараць аб тым, каб не было вайны.*

## Ніна Мушынская
## Заручаныя з песняй

Мясцовыя ўлады голасна хвалілі ўдачную адаптацыю песні. Пасля канцэрта запрасілі нас на вытанчаную вячэру. Найбольш смакавала салата. З чаго была зроблена, не раскусілі. Смакаваў таксама хлеб. Атрымала я аж дзве буханкі. У вызначаную гадзіну (дысцыпліна ёсць дысцыплінай) паехалі назад. Дамоў вярнуліся а першай уначы. Ох, гэтыя бедныя мужы!

Пачалася другая палова красавіка. Вясна. Палявыя работы, а перад намі першамайскі канцэрт. Добра, што толькі дзве песні трэба было адшліфаваць, няшмат будзе работы.

Урэшце прыйшоў той дзень. 30 красавіка тэатральная зала была перапоўнена. Прысутнічаюць найвышэйшыя ваяводскія ўлады. Крыху хвалюемся. Не папсуем, з'яўляемся вопытным калектывам. Цікаўнасць мацнейшая за хваляванне. Як ацэняць гледачы? Канцэрт павінен быць казачны. Не помню ўсіх удзельнікаў. Былі прадшкалякі, школьная моладзь, „Курпе зялёныя“, літоўскі калектыў і шмат іншых. На сцэне, як у калейдаскопе, змяняліся калектывы і мастацкая кампазіцыя.

Пасля канцэрта, да аўтобуса, якім мы мелі вяртацца дамоў, падышлі пасол Крыстына Маршалак, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк і павіншавалі нас.

Летам мы абслужылі некалькі народных фэстынаў. Не помню, дзе. Маю права не помніць. Сабралася гадоў.

У верасні ўрачыстасць 50-годдзя Беларускай сялянска-рабочай грамады. Трэба было падрыхтаваць зусім новую праграму. Перагартала шмат кніг. Шмат тэкстаў стварыла сама.

Урачыстасць адбылася ў глядзельнай зале ГП БГКТ у Беластоку. Пачалі мы яе сумнай песняй на словы Янкі Купалы:

*Шумныя бярозы*
*Пабяліў мароз.*
*Хацеў бы я плакаць,*
*Дый не маю слёз.*
*Хацеў бы я пеці*
*Аб сваёй бядзе,*
*Дый мне сэрца ные,*
*Песенька не йдзе.*

Песня падкрэслівала бяду эксплуатаванага народа. За песняй ішоў верш аб Грамадзе:

*Выходзяць мільёны,*
*Строяцца моўчкі*
*У густыя калоны...*

Верш канчаўся словамі:

*За права на спакой пад старасць*
*І за вясёлы смех дзяцей.*

Вялікую справу рабіла Грамада. Ішлі мы за ходам падзей. Так, як змяняліся часы, змянялася і наша праграма. Аж сустрэлі светлае сёння.

Праграму нашу высока ацанілі прысутныя на ўрачыстасці былыя КПЗБоўцы.

У сувязі з Днём Войска Польскага, ГП БГКТ запланавала канцэрт у Гайнаўцы. Апрацавала праграму, але, замест у Гайнаўку, паехала ў бальніцу. Нявесела закончыўся мой 1975 год.

## Наша галерэя



*Мікалай Грыгарчук. Жывапіс. „За клуняю“. 1978 год.*

*Фота М. Гайдука.*

# ХРОНІКА

На працягу апошніх месяцаў у памяшканні БГКТ у Варшаве адбылося многа цікавых мерапрыемстваў.

**21 II** др Аляксандр Баршчэўскі падзяліўся ўражаннямі аб пабыўцы ў Англіі. Быў ён там ад 22 студзеня да 8 лютага г.г. па запрашэнню Русістыкі універсітэта ў Рэдынгу.

**14 III** адбыўся вечар, прысвечаны Казіміру Сваяку (Канстанціну Стэповічу — 1890-1926). З уступным словам выступіў др А. Баршчэўскі. Гаворачы аб месцы Сваяка ў беларускай літаратуры, дакладчык падкрэсліў яго спецыфічную ролю ў пісьмовасці „Нашай нівы“ і Заходняй Беларусі. Баршчэўскі сцвердзіў, што Сваяк з'яўляецца прыгожым сімвалам таго, наколькі чалавек „слабы целам, можа быць моцны духам“. Такім чынам была падкрэслена безнадзейная хвароба Сваяка — туберкулёз, якая зламала яго фізічныя сілы, але не зламала яго сіл духоўных.

Сказанае А. Баршчэўскім было ўступам да выступлення роднага брата паэта — Бернарда Стэповіча, які пазнаёміў прысутных з фрагментамі сваіх успамінаў пра Казіміра Сваяка. Дэталі і факты, прадстаўленыя ў гэтых успамінах, маюць вялікае значэнне, паколькі яны мала вядомыя, або наогул невядомыя шырэйшым чытачам і літаратурным крытыкам.

**21 III** адбылася сустрэча з Францішкам Каравацкім, былым дзеячом КПЗБ, паэтам. Ф. Каравацкі нарадзіўся ў 1907 годзе ў фальварку Каладзянка Свірскага павету Віленскай губерні ў сям'і парабка. У 1926 годзе ўступіў у КПЗБ. За ўдзел у камуністычным падполлі санацыйныя ўлады Польшчы засудзілі Каравацкага на 9 гадоў турмы. Пакаранне адбываў на Лукішках, у Грудзёндзы і Вронках.

Падчас гітлераўскай акупацыі Каравацкі быў перакінуты праз фронт і кіраваў радыёстанцыяй у Юзэфове пад Варшавай. Прымаў удзел у арганізаванні Краёвай Рады Нарадовай і ў 1944 годзе перапраўляў яе кіраўнікоў праз фронт у СССР.

**4 IV** — ацэнка „Анталогіі беларускай паэзіі“ (на польскай мове), выдадзенай Выдавецтвам „Асалінэум“ у 1978 годзе. З ацэнкай выступіў В. Швед. Сцвердзіў ён, што гэта не першая ў гісторыі анталогія, якая выйшла з друку дзякуючы вялікаму любіцелю беларускай літаратуры, вядомаму польскаму пісьменніку, пражываючаму ў Лодзі, Яну Гушчу. Пераклаў ён большую частку паэтычных тэкстаў і ў яго апрацоўцы выйшла з друку кніжка. Дакладчык станоўча ацаніў абшырны ўступ (58 стар.) др А. Баршчэўскага, а таксама пераклады вершаў 21 аўтараў — вядомых польскіх паэтаў, пераважна з лодзінскага асяроддзя.

**12-13 V** трыццаціасабовы варшаўскі беларускі харавы калектыў, які працуе пад кіраўніцтвам мгр Уладзіміра Валасюка, з поспехам выступіў у Белавежы.

**16 V** у клубе БГКТ у Варшаве адбылася сустрэча з Язэпам Семяжонам, вядомым беларускім пісьменнікам, дасканалым перакладчыкам з англійскай, французскай, нямецкай, італьянскай і польскай паэзіі. Семяжон расказаў аб сваёй перакладчыцкай працы над „Панам Тадэушам“ Адама Міцкевіча на беларускую мову. Гэтая аграмадная праца набліжаецца ўжо да канца. Перакладчык прачытаў прысутным вялікія часткі свайго перакладу паэтычнай эпапеі А. Міцкевіча.

Язэп Семяжон прысутнічаў на падсумаванні агульнапольскага конкурсу на пераклады савецкай паэзіі (у якім В. Швед атрымаў адну з узнагарод), выступаў у Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве і перад студэнтамі Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

**В. Ш.**



 

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ШТО НОВАГА Ў 1979 ГОДЗЕ?

У Заблудаўскай гміне ў мінулым годзе ў скарб дзяржавы было прынята 98 сялянскіх гаспадарак агульнай плошчай 679 гектараў, а сёлета будзе прынята 611 га. У бягучым годзе ў гміне гаспадары прададуць дзяржаве 12 млн. 900 тысяч літраў малака. Прадбачваецца, што ў 1979 годзе ўраджай чатырох галоўных збожжавых культур будзе 24 цэнтнеры з 1 га і ўраджай бульбы будзе 230 ц/га (у 1978 годзе ўраджай бульбы быў у сярэднім 186 ц/га). У гэтым годзе сяляне плануюць зрабіць 13 тысяч тон кішонак. Значна больш будзе падсеяна мінеральных угнаенняў — каля 206 кілаграмаў NPK у чыстым складзе на 1 га ворнай зямлі і 4000 тон вапны (у 1978 годзе было падсеяна 70 кілаграмаў NPK на 1 га і 2030 тон вапны).

✲

У гміне Боцькі ў 1979 годзе перадасць свае гаспадаркі за пенсію 21 гаспадар (разам 140 га). ПФЗ павялічыцца да 598 га. З гэтага арэалу 45 га возьме СКР, 120 га купяць вядучыя земляробы і на 40 га будзе пасаджаны лес. Рэшту зямлі возьмуць у арэнду перадавыя індывідуальныя гаспадары.

У Боцькаўскай гміне зямля III і IV класаў складае каля 63% усіх зямельных угоддзяў. Таму будзе пасеяна больш буракоў і кукурузы. Прадбачваецца, што сёлета сяляне атрымаюць сярэдні ўраджай каласавых у 25,5 ц/га, бульбы — 220 ц/га і буракоў — 290 ц/га. У гміне будзе быдла 14220 штук, 12620 свіней і 6250 авечак.

У гміну будзе дастаўлена 450 цялят пароды „нцб“ і 120 пародзістых свінаматак.

Сяляне нарыхтуюць на зіму 20 тон кішонак і спаруюць 600 тон бульбы на кармы.

У бягучым годзе ў Боцькаўскай гміне арганізуюцца 34 спецыялістычныя гаспадаркі (будзе іх разам 118) і тры сялянскія калектывы (будзе іх 11). Варта адзначыць, што ў жывёлагадоўлі будуць спецыялізавацца 92 спецыялістычныя гаспадаркі і дзесяць сялянскіх калектываў.

### З ЖЫЦЦЯ ОСП

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае шмат добраахвотных пажарных каманд. Дзейнічаюць таксама 32 жаночыя, 68 маладзёжных і 29 гарцэрскіх пажарных камандаў. Большасць рамізаў будуецца грамадскай працай. У гадах 1977-78 прыбыло шаснаццаць новых рамізаў. Будуецца 20, 13 будзе гатова сёлета. У бягучай пяцігодцы пабудавана сорак супрацьпажарных басейнаў. Неабходна будаваць іх больш, бо толькі 60% усіх вёсак у нашым ваяводстве мае дастаткова вады.

### ГАРАДОЦКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

Як паінфармавала нас кіраўнічка ЗАГС Ніна Савэрын, у Гарадоцкай гміне цяпер пражывае 8306 асоб, у тым ліку 4250 жанчын (іх больш на 166) і 4056 мужчын.

Найбольшыя пасёлкі і вёскі гэта: Гарадок, у якім пражывае 2144 жыхары, у тым ліку 1155 жанчын і 989 мужчын; Валілы-станцыя — 607 жыхароў, у тым ліку 311 жанчын і 295 мужчын; Вейкі — 352 жыхары, у тым ліку 178 жанчын і 174 мужчыны; Валілы — 322 жыхары, у тым ліку 164 жанчыны і 158 мужчын і Залукі — 299 жыхароў, у тым ліку 141 жанчына і 158 мужчын.

Значна больш жанчын, чым мужчын, пражывае ў Падзалуках. Ёсць тут 31 мужчына і ўсяго 17 жанчын.

У 1977 годзе ў Гарадоцкай гміне пажанілася 61 пара і ў 1978 годзе 77 пар. Найбольш шлюбаў адбылося ў ліпені. У 1977 годзе была адна пара маладажонаў, якая налічвала 123 гады: ён 68 вёснаў і яна 55 вёснаў.

У вёсках Гарадоцкай гміны многа, так сказаць, жывучых людзей. Тых, каму ўжо больш 90 год, ёсць 47 асоб. А ёсць і такія, што пачалі ўжо другую сотню год. 104 гады споўніцца 20 кастрычніка гэтага года найстарэйшай жыхарцы гэтай гміны, Юліі Дарашкевіч з вёскі Калодна каля Каралёвага Мосту. Яна мела чацвёра дзяцей. Зараз удава. Жыве з сынам Янам Дарашкевічам. Другой шматгадовай жыхаркай гміны з'яўляецца Анна Лісоўская (нар. 15.09.1876 г.), якая жыве ў вёсцы Скрабляві.

(яц)





*Паштоўка з Белавежы. Кіно „Зубр“.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## З МАЁЙ ЗВАНІЦЫ

### ШТО ТАКОЕ „ПАГАНАЛІІ“

У ніякім слоўніку з маёй скромнай бібліятэчкі не знайшоў я слова „паганаліі“. У слоўніку замежных слоў знайшоў слова „жак“, што абазначае „бедны студэнт“. Пацвярджае гэта і беларуска-польскі слоўнік. Жак — бедны студэнт, толькі сесці і плакаць над ім. А паганаліі, у якіх бярэ ўдзел бедны студэнт, гэта бегатня ды бязглуздзіца.

Студэнты ў той час, які называюць паганаліямі, выглядаюць як каровы, калі іх гез кусае па спіне і пад хвастом. Тады яны (каровы і студэнты) бягуць, быццам ашалелыя, з вырачанымі вачыма, недзе ў блуд. Студэнты ў той час падобны на стада сабак, якія бегаюць па вуліцы і выклікаюць у людзей смех або абурэнне.

Чаму ж я так абурыўся на студэнтаў, запытае чытач, калі „Ніва“ пусціць гэтую заметку ў друк.

Не буду таіць, што абуранасць выступае не толькі ў мяне. Многія людзі гавораць, што адукаваныя людзі дарэмна трацяць сілы і энергію ў такіх гульнях, якія нічога нікому не даюць, тады, калі так патрэбны рукі да працы. Я асабіста нічога не маю супраць студэнтаў, бо ў іншых абставінах яны бываюць мілымі людзьмі. Але ў надляснiцтвах няма каму садзіць дрэў, а „бедныя студэнты“ лазяць, бы чучалы, па вуліцах з гітарамі і лапочуць глупствы.

А яшчэ горш, калі коцяць па вуліцах аграмадную цяжкую шпулю ад кабеля з надпісам: „рэкорд свету“. І не ідуць за ёю, а бягуць цэлыя кіламетры і ногі ім не баляць. Не баляць ім і сэрцы. А вось што мяне прымусіла траціць час на пісанне і зластаванне. Выехаў я ўчора на вуліцу Звежынецкую і ўбачыў такую карціну: нейкі чалавек вёз велізарную фуру дылёў. Недзе ў Беластоку, відаць, купіў дом і перавозіў. Конь быў белы ад пены і цяжка дыхаў. Шкада было на беднага глядзець. А адукаваныя людзі — шэсць чалавек, як тураў, з гітарамі ўскочылі на воз і верашчалі на розныя галасы, каб конь бег навыцяжку. Гаспадар іх праганяў, але нічога зрабіць не мог, бо яны — разумныя хуліганы, яго зусім не слухалі. Конь бег апошнімі сіламі і хроп, а яны верашчалі. Я ўжо не вытрымаў і пусціўся за імі на веласіпедзе. Назваў паразітамі. Саскочылі з фуры на вуліцы Свярчэўскага і пайшлі да сваіх сяброў, якія тую вуліцу перагарадзілі і сядзелі на ёй. Я затрымаў гаспадара і пытаюся, чаму ён так мучыць жывёлу, якая яго корміць. Гаспадар сумна адказаў мне, што баяўся „тых быкоў, каб не набілі, калі будзе з імі спорыць“. Праўда, я яго крыху паўстыдаў за такія адносіны да каня, і так засталося. З гэтага ўсяго выйшла столькі карысці, што бедны конь намучыўся, а яназлаваўся. Бяздушнікі застануцца бяздушнікамі, калі не знойдзецца лякарства. А паганаліі ж павінны служыць студэнтам як культурны адпачынак.

P. S. Няхай адпаведныя ўлады палічаць шкоды, якія паганаліі прынеслі гораду Беластоку.

**Васіль Петручук**

## На 35-годдзе ПНР

Жыхары Міхалоўскай гміны з нагоды 35-годдзя ПНР прынялі каштоўныя абавязацельствы.

У Кандратках будуць пабудаваны тратуары, пасаджаны дрэўцы і кветкі, а таксама абсталяваны агародчык для дзіцячых гульняў.

Вяскоўцы з Патокі будуць рамантаваць 300-метровы адрэзак дарогі са свае вёскі ў Геранімава.

Сяляне з Шымкаў у грамадскім пачыне пабудуюць дарогу да сенажацяў (200 м) і адрамантуюць дарогу з вёскі да шашы Беласток—Ялоўка (150 м).

Хлебаробы з Тыльвіцы намераны мадэрнізаваць дарогу Тыльвіца — Тыльвіца-маёнтак на 400-метровым адрэзку.

Жыхары Масціскаў возьмуцца за рамонт дарог да сенажацяў і ў лес.

Тапалянцы адрамантуюць стражацкую рамізу і азяблаўцы — святліцу.

Земляробы з Юшкавага Груда прыступяць да рамонту паўкіламетра дарогі са сваёй вёскі ў Тайніцу Гурну і 1 км дарогі да сенажацяў.

Дарогі да сенажацяў намераны добраўпарадкаваць сяляне з Сушчы і Іванюкоў. **(яц)**

## Па ініцыятыве партыі

Партыйная арганізацыя ў Арлянскай гміне складаецца з дваццаці ПОП. Сярод іх найбольш ініцыятывы і працавітасці праяўляюць члены партыі ў Крывяцічах, Рэдутах, Крывой і Міклашах. Партыйцы з Крывяціч на чале з першым сакратаром Міхалам Кулікам добраўпарадкавалі сваю вясковую вуліцу і цяпер ёсць нават тратуары. У Рэдутах члены партыі (сакратаром з'яўляецца Дзмітры Бахэнэк) і жыхары гэтай вёскі таксама перабудавалі ў сябе вуліцу ды праклалі паабапал яе тратуары. Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі ў Крывой (сакратар Сцяпан Пракапюк) тутэйшыя жыхары будуюць лепшыя мясцовыя дарогі. Спічкоўцы ўзяліся за пабудову дарогі з Орлі ў Спічкі. На грамадскі пачын выйшлі па ініцыятыве партарганізацыі, якую ўзначальвае Сяргей Пыж. Міклашоўская партыйная арганізацыя працуе пад кіраўніцтвам I сакратара Аляксандра Орды (ён передавы гаспадар, спецыялізуецца ў свінагадоўлі). Міклашоўцы дапамаглі ў пабудове святліцы. Цяпер будуюць жвіроўку на адрэзку Міклашы—Орля. Усе гуртам выходзяць на чын. Адзін бярэ фурманку, другі — трактар з прычэпаю. Працуюць па нядзелях. **(яц)**

## Ці ведаеце, што...

...у канцы 1978 года ў нашай краіне сельская гаспадарка мела машына-трактарны парк, які складаўся са звыш 500 тысяч трактараў, звыш 20 тысяч збожжавых камбайнаў тыпу „Бізон“, амаль 13 тысяч камбайнаў для капання бульбы, каля 6 тысяч камбайнаў для ўборкі буракоў. Агульная вартасць машын у сельскай гаспадарцы даходзіць да сумы каля 220 мільярдаў злотых.

**(яц)**

(Працяг са стар. 1)

## СПЯВАЮЧЫЯ МЕДЫКІ

нілася каля 800 спевакоў, усяго толькі шэсць ці сем асоб — гэта яго нязменная „жалезная гвардыя“, як, напрыклад, доктар медыцыны Антоні Сыдар, што спявае ў хоры ад часу яго заснавання. Што ж, студэнт канчае акадэмію, выязджае з Беластока і назаўсёды пакідае калектыў. А прыходзяць жа ў хор маладыя людзі, якія часцей за ўсё не маюць аніякай музычнай падрыхтоўкі. Праз месяц або паўтара індывідуальнай, надта ж інтэнсіўнай, працы з навічком, выпускаю яго на „глыбокія воды“, на выступленне з усім хорам. І не шкадую гэтага. А ў той жа час не спыняю працы над ім: сама меней 7-8 гадзін у тыдзень кожны наш спявак працуе на розных занятках хору. Таму нашыя харысты — гэта людзі вялікай ахвярнасці і заангажавання!

Пачаткі хору беластоцкіх медыкаў былі вельмі скромненькія, толькі ў 1968 г. ён заняў трэцяе месца на Агульнапольскім аглядзе студэнцкіх хораў у Шчэціне і паўтарыў гэтае дасягненне праз чатыры гады на Фестывалі студэнцкіх хораў у Пазнані. Гэта былі першыя ўдачы. У 1973 г. ён паспяхова выступае на Міжнародным харавым конкурсе ў Корк у Ірландыі, у 1976 г. здабывае ўзнагароду горада Легніцы ў конкурсе „Легніца спявае“ і ў тым жа годзе ў Англіі ў Мідльсбрук на Фестывалі хораў і фальклорных калектываў займае другое месца ў катэгорыі змешаных хораў. У 1978 г. на Агульнапольскім фестывалі „Песні пра Айчыну“ ў Красніку займае першае месца. У бягучым годзе прыняў удзел у гэтым жа фестывалі і зноў заняў першае месца. Выедзе таксама па спецыяльнаму запрашэнню на XVIII Міжнародны харавы конкурс у Гарацыо ў Італіі. І так, выступалі беластоцкія медыкі-харысты амаль па ўсёй Польшчы, запісалі некалькі сваіх канцэртаў для Польскага радыё, гасцявалі на экранах польскай тэлевізіі, наведалі Ірландыю, Англію, Бельгію, Іспанію, Партугалію.

— У нас устанавіліся блізкія, прыяцельскія сувязі з нашымі савецкімі сябрамі з медыцынскіх інстытутаў у Каўнасе і Гродне. У Літоўскай ССР мы ўжо пабывалі два разы са сваімі канцэртамі, у 1975 і 1977 гадах. Прымалі нас вельмі сардэчна і стварылі нам добрыя ўмовы для азнаямлення з помнікамі культуры і дасягненнямі літоўскага народа ў цяперашні час. У Гродна, на жаль, былі мы толькі раз, у 1975 г. выступалі на ўрачыстым канцэрце. Але я спадзяюся, што нашыя сувязі з сябрамі з Савецкай Беларусі будуць пашырацца. Намерваюся ўзбагаціць рэпертуар нашага хору якраз беларускімі мелодыямі. Мы маем добрыя традыцыі ў спяванні савецкіх песень. Шэраг нашых харыстаў прымала ўдзел у конкурсах савецкай песні, наш саліст Януш Сабалеўскі дайшоў нават да канцэрта лаўрэатаў у Зялёнай Гуры. Хор з'яўляецца калектыўным членам ТППР.

Вядома, выдатныя дасягненні заўсёды вымагаюць захаду, намаганняў, сродкаў. І хору вялікую дапамогу заўсёды нясе кіраўніцтва Беластоцкай медыцынскай акадэміі, яно даручыла дац. др Дануце Кацьмерскай спецыяльную апеку над усімі справамі хору. Таксама ў кіраўніцтве горада і ваяводства таленавітыя медыкі-спевакі маюць сваіх шчырых прыяцеляў, што заўсёды стараюцца ім дапамагчы.

Самы каштоўны здабытак хору гэта тое, што іменна ў ім праз музыку разбуджаецца ва ўсіх спевакоў-харыстаў асаблівая ўражлівасць і чуллівасць, уменне сужыцця з іншымі людзьмі, фармуецца пачуццё адказнасці кожнага з асобку за вынікі намаганняў усяго калектыву. Так выхоўваюцца і гартуюцца дзесяткі не толькі спецыялістаў-медыкаў, але таксама самаахвярных грамадскіх дзеячоў у малых гарадах, мястэчках, сёлах, дзе ім прыдзецца працаваць пасля заканчэння беластоцкай Альма Матэр.

**Мікалай Гайдук**

Віктар Шымук

# ПАЯДЫНАК

(УРЫВАК З ПАЭМЫ)

Памяці Жэні Бакаўца

* * *

*Юным партызанам*
*Хлопчык Жэня стаў.*
*Шмат было заданняў*
*Шмат хапала спраў.*

*І зімой, і ўлетку,*
*З сябрам ці адзін*
*Жэня на разведку*
*З лагера хадзіў.*

*Поўз баец маленькі*
*Праз агонь і дым,*
*Узрываў ён рэйкі,*
*Нішчыў паязды.*

*Быў, нібы дарослы,*
*У атрадзе ён...*
*Ціха шэпчуць сосны,*
*То гудуць, бы звон.*

*І сцяжынкай волкай*
*Ён ідзе між хвой.*
*...У сяле на золку*
*Разгарэўся бой.*

*Косіць з аўтамата*
*Жэня Бакавец:*
*— Вось вам, знайце, каты,*
*Знайце наш свінец.*

*Нездарма ў разведку*
*Піянер хадзіў.*
*Ўсё браў на паметку*
*Потым камандзір.*

*Вечарам імглістым*
*Хлопцу гаварыў:*
*— Мы дадзім фашыстам*
*Сёння прыкурыць!..*

* * *

*Лясной сцяжынкай*
*неўпрыкметку*
*Паміж сасонак у бары,*
*Ішлі на досвітку ў разведку*
*Два партызаны, два сябры.*

*— А цішыня вакол якая, —*
*Прамовіў Жэня сябруку, —*
*Глянь: верасы не адцвітаюць*
*І ўзяў сцяблінку ў руку.*

*...Яны папалі на засаду*
*На скрыжаванні дзвюх дарог.*
*Крычалі спераду і ззаду,*
*Крычалі хлопцам:*
*— Хэндэ хох!*

*І абудзілі стрэлы ранак,*
*І кулі ціўкалі наўкол.*
*Упалі хлопцы-партызаны*
*На верасы, на мокры дол.*

*Застракаталі аўтаматы*
*Па злыднях-ворагах ў адказ.*
*Узняўся сябра і гранату*
*Шпурнуў у цэнтр засады ўраз.*

*Шпурнуў... і раптам нахіліўся,*
*Панікнуў долу галавой,*
*На сцежку цяжка паваліўся*
*І прастагнаў:*
*— Забілі, о-о...*

*Адзін, адзін цяпер застаўся*
*Ў кальцы варожым Бакавец.*
*Яму крычалі:*
*— Рус, здавайся!*
*Табе капут, табе канец!*

*А ён ля хвоі, сцяўшы зубы,*
*Бліжэй фашыстаў падпускаў,*
*І па звяругах-душагубах,*
*Ва ўпор страляў, страляў,*
*страляў.*

*Ды кончыліся ўсе патроны,*
*Замоўк гарачы аўтамат.*
*Шумяць над Жэнем сосен*
*кроны,*
*І перад ім — фашыстаў рад.*

*Бывайце, верасы і людзі,*
*Бывай, матуля, родны дом!*
*...Працяў імгненна Жэня грудзі,*
*Заціхла сэрца пад лязом.*

*Так у баі загінуў смела*
*Айчыны нашай верны сын.*
*На ўсходзе неба ружавела,*
*І ружавелі верасы.*



(Працяг са стар. 3)

# РАВЕСНІКІ

гаварыў ні слова. Тады яго пачалі пароць штыкамі, на спіне выразалі зорку, раны пасыпалі соллю. А Валодзя маўчаў...

Сымон Пятровіч глядзіць на Паўліка. Той усё разумее і апускае вочы. Некалькі хлопчыкаў паварочваюцца ў яго бок. Дзяўчынкі цыкаюць на іх, і ўсё сціхае.

— Тры дні біўся наш атрад з нямецкім гарнізонам. Калі ўскочылі ў хату, дзе дапытвалі Валодзю, хлопчык ужо ледзьве дыхаў. На камандзірскім кані яго павезлі за раку, да партызанскага доктара. Але не давезлі.

Пахавалі Валодзю на гэтым беразе, недалёка адсюль.

Сымон Пятровіч устае. Паднімаюцца і вучні. Яны ідуць за настаўнікам над самаю кручай.

Каля ракітавага куста відаць невялікая пірамідка, пад ёю — травяністы грудок. Усе маўчаць. Сымон Пятровіч нагінаецца, пачынае збіраць з магілкі сухое вецце і выдзіраць палын. Дзяўчынкі разбягаюцца па лузе: ірвуць самыя буйныя рамонкі і званочкі. Паўлік разам з хлопчыкамі спускаецца да ракі. Яны награбаюць у шапкі і прыполы кашуль пясок, носяць і пасыпаюць маленькі грудочак. Потым усе разам кладуць на магілу вялікі вянок лугавых кветак.

— Цяпер будзем хадзіць сюды кожную вясну.

— Пасадзім многа-многа кветак. Дадому па той жа сцяжынцы ідуць прыцішаныя і задуманыя.





←

Сталі гусарыкі нерухома, на значнай адлегласці адзін ад аднаго, нібы чакалі каманду. Раптам два з іх пачалі збліжацца, апусцілі галовы, натапырылі каўняры і падскочылі. Гэта, відаць, і паслужыла сігналам пачынаць усеагульную бойку: усе птушкі адразу забегалі, замітусіліся, змяшаліся і пачалі свае бяскроўныя сутычкі.

Біліся яны без разбору — і па два, і па тры, і нават па некалькі адразу. Распушаць свае рознакаляровыя каўняры і падскакваюць на метр і вышэй, стараючыся пры гэтым скубануць адзін аднаго за каўнер. У мітусні гэтай іх пер'е зіхацела, пераліваласа на сонцы і серабрыстай зелянінай, і гранатам, і начышчанай бронзай, і чырванню медзі, і яркай сінаватасцю, і мяккім блакітам.

Гусарыкі, відаць, так увайшлі ў азарт, так захапіліся сваімі паядынкамі, што нават і не бачылі, як мы з Антонам даўно ўжо вылезлі з будана, сталі і назіралі за іх турнірам. І толькі калі адзін з іх заўважыў нас і ўзняўся, усе апаматаліся і адзін за адным, як кулі, пачалі выстрэльваць у паветра і разлятацца ў розныя бакі.

Не мінула і хвіліны, як такавішча апусцела. Толькі рознакаляровыя пярынкі засталіся на вытаптаным месцы.

Мы яшчэ доўга сталі нерухома пад уражаннем незвычайнага відовішча. Потым я паглядзеў на свайго сябра і з захапленнем прапанаваў:

— Усё, у наступную суботу прывяду хлопцаў з кінаапаратам. Ты нават не ўяўляеш, як прыгожа атрымаецца на каляровай плёнцы!

— Нічога, браце, не выйдзе з гэтага, — спакойна, крыху нават расчараваны адказаў Антон. — Хіба я табе ўчора не гаварыў, што ток іхні канчаецца і пасля яны адразу паскідаюць сваё святочнае убранства? Стануць яны тады шэрымі, шэрымі, несамавітымі, падобнымі адзін на аднаго, як дзве кроплі вады, — проста звычайнымі птушкамі. І збірацца болей не будуць. Так што, браце, з гэтай тваёй задумы сёлета нічога не атрымаецца.

— А шкада, вельмі шкада, — ціха адказаў я і са смуткам падумаў: „Ну што ж, пакуль толькі раскажу пра гэта цудоўнае відовішча, а наступнай вясной абавязкова падмацую свой расказ каляровай кінаплёнкай".

## АДГАДАНКА



**За які адвес (А, В, С ці Д) трэба пацягнуць, каб атрымаць кавалак торту?**

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.





Адасік з Райска. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 24 (1140) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 17.VI.1979 г.

Сяргей Грахоўскі

# РАВЕСНІКІ

Над лугам і пералескамі дрыжыць густое гарачае паветра. Дзынькаюць пчолы і аваднi. Закаласіліся мятліца і конскае шчаўе, разлапушыліся лугавыя рамонкі. Пералятаюць і садзяцца на тонкія сцяблінкі вялікія стракозы. Шамаціць і хвошча па нагах пераспелы званец.

Па сцяжынцы ў адзін след ідуць хлопчыкі і дзяўчынкі — увесь чацверты клас выправіўся ў паход. Смяюцца, спяваюць, падштурхоўваюць адзін аднаго. Адстае толькі Паўлік: ён нагу намуляў, накульгвае і цягнецца ззаду.

Сымон Пятровіч спыніўся, чакае Паўліка.

— Што, баліць?

— Як агнём пячэ, — сцяў зубы хлопчык.

— І трэба было табе абувацца! Лета, цяплынь, па сцежцы, хоць бокам каціся. Вунь усе аж падскокваюць.

— Каб не абуўся, мама не пусціла б. Кажа: „Параніш нагу, яшчэ інфекцыя трапіць“.

Паўлікава мама — доктарка. Яна заўсёды баіцца, каб з ім чаго не стрэслася.

— Садзіся, здымай чаравік, зараз цябе вылечым.

Паўлік разуваецца, прытрымлівае абедзвюма рукамі нагу і паказвае больку. Сымон Пятровіч адарваў цупкі лісточак трыпутніку, прыклаў да ранкі і завязаў чыстаю насовачкай. Паўлік перакінуў цераз плячо звязаныя чаравікі і пабег па сцяжынцы.

Дзеці даганяюць адзін аднаго, неўпрыкметкі казычуць сяброў травінкамі і заліваюцца смехам.

— Стойце, пачакаем Сымона Пятровіча, — ціха гаворыць Каця. Яна зімою была староста класа, і ўсе прывыклі яе слухаць.

Настаўнік трохі накульгвае. Кажуць, ад самае вайны. Але ён добра ездзіць на веласіпедзе, гуляе ў валейбол, і дзеці часта забываюць, што яму цяжка хадзіць.

— Можа прысталі? — параўнаўшыся з вучнямі, пытаецца Сымон Пятровіч.

— Не-е-е! — хорам адказваюць дзеці. — Хадзем далей, да рэчкі, да рэчкі!

Настаўнік ссунуў на патыліцу саламяны капялюш, угледзеўся ў зарэчныя лясы, задумаўся: відаць, нешта ўспомніў. Вучні прыціхлі. Яны глядзяць у той бок, але нічога апрача сінага зубчастага бору, не бачаць.

— Ву-у-нь на тым узлессі некалі тры дні ішоў бой з фашыстамі, — паказвае ўдалеч Сымон Пятровіч. — Многа іх там палягло. Тады і мяне жыганула нейкая дурная куля... Ну, хадзем, калі не прысталі.

Хлопчыкі забягаюць наперад і ўпрошваюць расказаць, як гэта было.

— Зробім прывал, тады і пагаворым.

Усе ідуць за Сымонам Пятровічам. Шуміць пад нагамі званец, лапочуць крыльцамі стракозы, хіляцца ад спёкі рамонкі.

Вось і стромкі бераг ракі. Каля самае вады расце густы алешнік, над ракою кружацца, ціўкаюць і знікаюць у норках шустрыя бера-



жанкі. Сонечна і ціха. Усе трохі прытаміліся і садзяцца наўкруг настаўніка. Сымон Пятровіч здымае капялюш, выцірае далонню змакрэлы лоб і пачынае спакойна і ціха расказваць:

— У вайну я быў трошкі большы, чым вы цяпер. У нашым атрадзе „Чырвоны Кастрычнік“ такіх хлопчыкаў набралася многа, бо ў партызаны прыходзілі сем'ямі.

— І дзяўчынкі былі? — не ўтрымалася Каця, але нехта яе смыкнуў за касу, каб не перабівала.

— Былі і дзяўчынкі, баявыя, смелыя і цярплівыя. Але самы адважны быў Валодзя Мазейка. Маленькі хлопчык разносіў па вёсках партызанскія лістоўкі, умеў усюды пратачыцца і палічыць ва-



рожыя кулямёты, нават у паліцэйскія гарнізоны заходзіў. Куды не мог прайсці дарослы, выпраўляўся Валодзя. Не пускае яго, бывала, камандзір, а ён прыдумае такі план, што ўсе дзівіліся. Сходзіць і зробіць усё як трэба.

Зімою 1944 года фашысты прыцягнулі ў Парэчча гарматы, прыгналі танкі. А колькі іх, ніхто не ведаў. Зноў прыйшлося Валодзю ісці ў разведку. Заўсёды яго праводзіў наш камсорг. Ён хаваўся за кустамі і чакаў, пакуль не вернецца маленькі разведчык.

І той раз узялі яны аўтаматы і пайшлі. Толькі выбраліся з лесу, паднялася такая завіруха, што і свету белага не відно. А разведчыкам толькі гэтага і трэба — ніхто не бачыць, і сляды ўсе пазамятае. Адышліся яны кіламетраў пяць, аж чуюць: недзе блізка конь заржаў. Прытаіліся, слухаюць. Тупат — усё бліжэй і бліжэй, гаворка не нашая чуваць. Прыгледзеліся, бачаць, у снежнай крутаверці едуць чалавек дзесяць карнікаў. Хлопцы секанулі па іх з аўтаматаў. Даляцелі крыкі, закруціліся, ірванулі назад коні.

— Гранатай іх, гадаў! — закрычаў камсорг, ускочыў, прабег трохі, пахіснуўся і зваліўся ў снег з выцягнутай рукой. Валодзя адбіваўся адзін. Яго пачалі акружаць, а ён косіць на ўсе бакі. Непадалёк упаў конь, а з-за яго спіны засакатаў аўтамат. Кулі свісталі над галавою, чыркалі па снезе, зразалі лазовыя галінкі.

Раптам Валодзеў аўтамат змоўк. І хлопчык папоўз да зброі свайго забітага друга. Заставалася тры метры, два, вось-вось дацягнецца рукою. Але нешта моцна тузанула і апякло плячо, памкнуўся Валодзя ўстаць і не змог. Праз хвіліну на яго наваліліся два здаравенныя фрыцы, скруцілі рукі і павалаклі.

Дапытваў Валодзю самы люты афіцэр. Але маленькі партызан не

(Працяг на стар. 5)





## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

Уладзімір Ляўданскі

### ГУСАРЫКІ

Аднаго разу гасцяваў я ў даўняга свайго сябра Антона Пятровіча, які жыве на Палессі і працуе ў лясніцтве. Пасябравалі мы з ім яшчэ ў партызанскім атрадзе і цяпер часцяком наведвалі адзін аднаго. На гэты раз я завітаў да Антона, калі пачынаўся цецеруковы ток, — хацелася пасядзець досвіткам у будане, палюбавацца прыгожымі птушкамі і, вядома, адпачываць на свежым паветры.

Аднак на гэты раз мне чамусьці не пашанцавала; два разы мы з Антонам сядзелі ў бярэзніку каля ракі, а цецерукоў і ў вочы не бачылі. Першую раніцу яны такавалі недзе ў лесе на прагаліне, а другую — на сенажаці за кустамі, таксама досыць далёка ад буданоў.

І вось калі я ўжо сабраўся ехаць дадому, за вячэрай Антон запытаўся:

— А ці бачыў ты калі-небудзь, як гусарыкі такуюць?

— Якія гэта яшчэ гусарыкі? — з недаверам паглядзеў я на гаспадара, бо мне здалося, што ён жартуе.

— Застанься яшчэ на адзін дзень — паглядзіш якія, — адказаў Антон. — Скажу табе адно: гэта, браце, вельмі цікавыя птушкі, з пароды кулікоў. У некаторых мясцінах іх называюць батальёнчыкамі, а ў нас чамусьці празвалі гусарыкамі. Можа, за іх франтаватасць і задзірыстасць, а можа, за рознакаляровае ўбранства — хто іх ведае.

Назаўтра зацемна мы адправіліся з Антонам у лес. Сам ён узяў стрэльбу, а мне загадаў узброіцца гладкім шосцікам, што стаяў ля страхі на дрывотні.

Балота было багністае і амаль зусім голае. Толькі дзе-нідзе ў белым тумане віднеліся рэдкія ракітавыя кусцікі, крывыя чэзлыя сасонкі і адзінокія закажанелыя бярозкі. Мы адкасалі халявы гумавых ботаў і палезлі ў балота, ад якога патыхала сырасцю, багуном і нейкімі раннімі багнавымі кветкамі.

Антон трымаў у левай руцэ ліхтарык, а ў правай палку, якую выразаў па дарозе ў арэхавым кусце, спрытна пераскокваў з купіны на купіну, абыходзіў шырокія небяспечныя лужыны і раз-пораз азіраўся на мяне. Я ледзь паспяваў за ім.

Некалькі разоў мы ўзганялі нейкіх птушак, якія, моцна залапатаўшы, у момант знікалі ў тумане.

Нарэшце пасля добрай гадзіны стамляючай хады мы апынуліся на нейкай сухаватай прагаліне, дзе ўжо раслі досыць вялікія лазовыя кусты і вербалозы. Ля аднаго такога куста спыніліся, прыселі на выварацень і закурылі. Потым Антон улез у куст, падцерабіў яго, ссечанае ўскінуў наверх, вярнуўся

—→





←—

да мяне, пасвяціў запалкай на гадзіннік і сказаў:

— Ну вось і ўсё, хутка палезем у гэту будыніну.

А яшчэ праз некалькі хвілін мы ўжо ўладкоўваліся ў змайстраваным будане.

Пачынала світаць.

Недалёка ад нас нешта спудзіла качак, якія, моцна лопаючы крыламі, прасвісталі над нашым буданом. Услед за гэтым недзе закрычала кнігаўка. І нібы ў адказ ёй каля лесу некалькі разоў затрубіў журавель. Потым зноў усё сціхла. А праз нейкую паўгадзіну, калі пабялела неба, зніклі зоркі і над балотам, павольна заварушыўшыся, пачаў узнімацца угару туман, навокал усё зазвінела, ажыло. Бал-

Вось ужо і сонца пачало ўзыходзіць, а гусарыкі ўсё яшчэ не прыляталі. Па праўдзе кажучы, я ўжо крыху і забыўся, чаго мы тут сядзелі, як раптам з'явіўся першы гусарык і сеў так блізка ад нашага будана, што можна было добра разгледзець яго элегантную пастаць і рознакаляровае ўбранства. Не паспеў я налюбавацца ім, як з'явіўся другі, потым трэці, чацверты. Хвілін праз пяць іх было ўжо не менш двух дзесяткаў. І ўсе яны на дзіва разнастайныя па колеры. У адных каўняры чыста белыя, у другіх у карычневую або зялёную крапінку, у трэціх сінаватыя, у чацвёртых ружовыя або шэрыя... Потым з'явіліся з ярка-чырвонымі і нават чорнымі, з адмысловымі, адметнага колеру манішкамі на грудзях. Галовы ў іх былі ўпрыгожаны таксама неаднолькава: у адных гладкія сінія



батанне цецерукоў, свіст і шчэбет разнастайных птушак — усё злілося ў суцэльны хор, напоўніла паветра жыццём і радасцю. Я не вытрымаў і ад захаплення парушыў наша маўчанне, загаварыўшы з Антонам на поўны голас. Мой сябар адмоўна пакруціў галавой, і я зноў супакоіўся. Цяпер я ўжо слухаў не толькі гэту цудоўную сімфонію балотнага жыцця, але і сваё ўласнае сэрца, якое чамусьці моцна білася.

або чорныя прычоскі, у другіх на патыліцах тырчалі высокія чырвоныя, зеленаватыя і нават фіялетавыя чубы. У некаторых стракатыя галаўныя ўборы раздвойваліся накшталт вушэй пугача, толькі былі больш пышныя. Нават доўгія тонкія ногі ў іх розніліся па колеры — і светла-ружовыя, і цёмна-шэрыя, і чырвоныя, а ў некаторых чорныя.

—→

ТЭМА ДА ДЫСКУСІІ

# ЧАМУ МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ З ВЁСАК?

На апошнім з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“ М. Матвеюк выступіў з крытыкай, накіраванай супраць моладзі, якая пакідае свае вёскі і ідзе жыць і працаваць у гарады. Крытыка была рыфмаваная, а яе фрагменты свайго часу надрукавала „Ніва“.

Не браў я слова ў гэтай справе, але паколькі тэма мяне пачала інтэнсіўна нуртаваць, дазвольце, што выкажу свае думкі цяпер.

М. Матвеюк кажа, што моладзь уцякае з вёсак таму, што не хоча цяжка працаваць у сельскай гаспадарцы. Напэўна. Але не выключна па гэтай прычыне. У горадзе таксама не бракуе цяжкай працы. Думаю, што перш-наперш самі ўмовы жыцця на вёсцы пхаюць людзей у гарады. Скажа хтосьці ў гэтым месцы, што цяпер і на вёсцы можна жыць не горш, як у горадзе. Ды я не цалкам згаджуся з гэтым сцвярджэннем. Так, ёсць на вёсках новыя жылыя дамы, у якіх усялякія выгады, ды іх рашуча замала, асабліва на Беласточчыне. А не кожны малады чалавек мае матэрыяльныя і фізічныя магчымасці, каб самаму пачаць будаваць дом, які б яго задаволіў. Той, хто калі-небудзь будаваўся, ведае, якія клопаты з атрыманнем патрэбных матэрыялаў.

Але яшчэ не гэта найважнейшае. Калі ёсць сякі-такі дом, можна жыць і на вёсцы. Найгоршае тое, што на вёсцы культурнае жыццё амаль зусім не існуе. А калі існуе, то ў рэштакавай постаці (маю на думцы псеўдадзейнасць усялякіх клубаў селяніна і т.п.). У горадзе ёсць кіно, тэатр, розныя клубы, часам цырк, філармонія, зрэшты, не трэба прыводзіць прыкладаў, усе ведаем, што там ёсць. А што на вёсцы? Куды на вёсцы пойдзеш пасля працы? У гасподу, да суседа паіграць у карты, ці сядзець у хаце пры тэлевізары? Бо што іншага можна рабіць? Маралісты скажуць напэўна, што трэба арганізоўвацца ў гурткі зацікаўленняў, прабаваць свае сілы ў мастацкай самадзейнасці і г.д. Так, ды не ўсе маюць голас, слых. Не ўсе могуць спяваць ці танцаваць, быць акцёрамі. Што ім рабіць? Зрэшты, ці і тыя, якія праяўляюць нейкія мастацкія здольнасці і прымаюць удзел у мастацкай самадзейнасці, — могуць сказаць, што гэта задавальняе іх культурныя патрэбы? Напэўна не. Не будзем наіўнымі! Чалавеку нішто не заменіць кінасеанса ў сапраўдным кіно, тэатральнага спектакля ў сапраўдным тэатры, канцэрта ў сапраўднай філармоніі і т.д.

Уся моладзь цяпер з вёсак вучыцца ў розных школах. Даведваецца многа чаго цікавага аб свеце. Захапляе яе развіццё тэхнікі, прамысловасці, навукі, культуры. Міжвольна паяўляецца ў яе жаданне ўвайсці ў гэты круг, прабаваць свае сілы ў гэтых галінах. А што на вёсцы — араць поле, сеяць, збіраць плён, гадаваць жывёлу? Так, гэта вельмі патрэбнае, а правільней кажучы — неабходнае. Усе мы ведаем аб гэтым. І ўсе менш ці больш свядома цэнім людзей, якія кормяць нас. Ды мала каго з нас прыцягвае праца (мо і не так зусім нецікавая), якую мусім выконваць ад світання да змроку без ніякай надзеі на прыемны, цікавы і культурны адпачынак.

Таму няма чаго здзіўляцца, што моладзь не хоча заставацца на вёсках. У горадзе шырэйшы гарызонт жыцця.

Гэта пакуль усё, што хацеў я сказаць. Чакаю адгалоскаў іншых маладых.

**П. Байко**

## ЗАЎСЁДЫ ЗАБЫВАЮЦЬ

У Чаромсе ёсць садова-агародніннная крама, у якой прадае Яўгенія Гаўрылюк. Як сама назва гаворыць, тут павінны прадавацца свежыя фрукты і агародніна. Ды калі б не заглянуў у тую краму, заўсёды на выстаўцы тыя самыя тавары: кансерваваныя мясныя і гародніннныя прадукты. Аб свежых фруктах і гародніне няма што і гаварыць. Рэдка паяўляюцца ў продажы, напрыклад, лімоны ды і то як лякарства. Перад Вялікаднем кляшчэлеўскі ГС развозіў па сваіх крамах агуркі ў слоіках. У Чаромху таксама далі, ды не ў тую краму, што трэба. Прадаўшчыца Гаўрылюк і на вочы не бачыла агуркоў.

Мне здаецца, што на такі рабочы цэнтр, як Чаромха, павінна быць сапраўдная крама з агароднінай, а не толькі шыльда на краме. Ёсць просьба, каб гандлёўцы не забывалі, што ў Чаромсе такая крама чакае тавараў. **(ус)**

## БУДЗЕ ЛЕПШ

Нарэшце будуць рэалізаваны жаданні жыхароў горада Гайнаўкі. У гэтым годзе Прадпрыемства камунальнай гаспадаркі пабудуе калектар ад буры на новым пасёлку Падляссе і на вуліцы Бельскай. Таксама ў плане пабудова на пасёлку Падляссе і на вуліцы Ланковай водаправода. На аседлі Пашкі зробяць вулічнае асвятленне. На вуліцы Бельскай паложаць тратуар. А кусок дарогі ад вуліцы Гурнай да Тарговай зробяць цвёрдай.

Пры мосце на вуліцы Ліповай будзе пабудаваны меліярацыйны роў і водны басейн. Закончыцца разбудова шклярні, дзе вырошчваюцца розныя кветкі.

**Э. Вайсковіч**



ФОТА-ЭТРА

*Мельхіёр Ваньковіч. З цыкла „Крэсы“.*

ФАЛЬКЛОР

### ХРЫСЦІННАЯ



*Ў сынавум садочку яра рутка сходзіт —*
*ой, там маці сына па садочку водзіт,*
*ой, там маці сына па садочку водзіт,*
*па садочку водзіт і яго пытае;*
*па садочку водзіт і яго пытае:*
*— Скажы, сынку мілы, хто табе мільнейшы:*
*чы мілая жонка, чы родна сястронка?*
*чы мілая жонка, чы родна сястронка?*
*— А мне жонка міла, бо мая радзіна,*
*а сестра мільнейша, бо мане гасціла,*
*а сестра мільнейша, бо мане гасціла.*
*— Скажы, сынку родны, хто табе мільнейшы:*
*чы мілая сёстра, чы родна матуля?*
*чы мілая сёстра, чы родна матуля?*
*— А мне сёстра міла, бо будзе гасціла,*
*матуля мільнейша, бо мане радзіла,*
*матуля мільнейша, бо мане радзіла.*
*Як мане радзіла, усю ночку хадзіла,*
*усю ночку хадзіла, усю ночку ні спала,*
*усю ночку хадзіла, усю ночку ні спала,*
*васкавая свечка ўсю ночку палала,*
*васкавая свечка ўсю ночку палала.*
*Васкавая свечка ўсю ночку палала —*
*маці кашуленьку на смерць гатавала,*
*маці кашуленьку на смерць гатавала.*

Ад Марыі Янюк, 1908 года нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

(Працяг са стар. 2)



# СЕКТЫ

мільянерамі. Большасць з іх задавальняецца некалькімі мізэрнымі грашовымі збераджэннямі — але і гэта гарантуе бяскрыўднае жыццё. Спрытныя „збавіцелі“ катаюцца тут, як сыр у масле. Паказальная гісторыя Рона Хабардза. Авантурыст і квітнеючы аўтар навукова-фантастычных раманаў, ён прыехаў з Канзаса, але сваю „дыянетыку“ прыдумаў у Лос-Анджэлесе. „Дыянетыка“ — мутная сумесь псеўдапсіхааналізу і прымітыўнай кампютэрнай тэрміналогіі — выдаецца за сродак, які вылечвае ад душэўных пакут, страху, псіхасаматычных захворванняў і нават катару. Хабардз выпусціў кнігу, якая стала бестселерам. Аднак поспех аказаўся нядоўгавечным, і Хабардз зразумеў, што яму давядзецца выдумаць нешта іншае, каб ажыццявіць сваю мару аб багацці. І ён заснаваў царкву „Навукалогіі“ а далей усё пайшло, як па масле. Праз некалькі год яго секта налічвала 3,5 млн. членаў.

У ЗША рэлігійныя ўстановы — афіцыйныя ці самазваныя — вызваляюцца ад падаткаў. Прадпрыемства на базе „навукалогіі“ квітнела. Хабардз купіў параход і, адбываючы на ім круізы, правіў з яго борта сваёй узрастаючай імпрэсіяй. Затым ён набыў атэль у Фларыдзе за 2,2 млн., манастыр у Арэгоне за 1,1 млн., і, урэшце, бальніцу ў Лос-Анджэлесе за 5,5 млн. долараў. Цяпер „навукалогія“ распараджаецца 16 царквамі і 72 місіямі ў ЗША, 33 царквамі і 47 місіямі ў шаснаццаці іншых краінах. Агульны гадавы даход секты ацэньваецца прыблізна ў 10 млн. долараў. Гэтая царква адрозніваецца вельмі агрэсіўнымі метадамі, мае ўласную шпіёнскую сетку — „абаронны ордэн“. Яе тайныя агенты прасочваюцца ў „варожыя“ арганізацыі — такія, як Амерыканская медыцынская асацыяцыя, міністэрства юстыцыі і падатковае ведамства.

Адна з галоўных небяспек — уступіўшы ў секту, чалавек ужо не можа яе пакінуць. Пастыры „Дзяцей божых“, напрыклад, пастаянна цвердзяць, што нікому не дадзена жывым пакінуць калонію. Хто хоча пакінуць яе, павінен забіць сябе. Некаторыя секты, каб спраўней трымаць сваіх прыхільнікаў, стараюцца іх перажаніць. Аднойчы Мун пераждніў 1 800 сваіх паслядоўнікаў... „Царква Навукалогіі“ была асуджана ў шэрагу краін — у ЗША, Новай Зеландыі, Вялікабрытаніі, Францыі і Грэцыі — за ажыццяўленне „недапушчальнага псіхалагічнага націску“ на сваю „паству“.

Як правіла, у веравучэнні сектанцкіх груп цэнтральную ролю іграе чаканне „канца свету“. Асаблівую цікавасць уяўляе група „Акварыус“, вызнаўцы нейкай сумесі навуковай фантастыкі з культам Азірыса. „Акварыус“ узяў таксама на ўзбраенне аснову дактрыны „Сведкаў Іеговы“ — страх перад наступленнем 2000 года. Адэпты „Акварыуса“ запэўніваюць, што на зямлю прыляцяць 12 тысяч „лятаючых талерак“, па 12 месц у кожнай (разам 144 тысячы месц), возьмуць на борт усіх, хто своечасова ўступіў з імі ў кантакт, і завязуць іх на іншую планету. Там людзі правядуць тысячу год у чаканні таго часу, калі спустошаная і забруджаная зямля зноў пакрыецца дзявочымі лясамі. І тады „лятаючыя талеркі“ вернуць зямлян на родную планету...

**А. Сідаронак**

# У ляўкоўскіх керамікаў

Ляўкова вядомае багатымі залежамі гліны. Тут ужо дзесяць гадоў дзейнічае вялікая керамічная фабрыка. Цяпер выпускае яна ў асноўным цэглу і пустакі. Больш 4,5 млн. штук у месяц. Працуе тут 290-асабовы рабочы калектыў (гэта перш за ўсё жыхары навакольных вёсак. Сярод іх: галоўны энергетык інж. Мікалай Салавей, галоўны механік інж. Віктар Садоўскі, кіраўнік да спраў прадукцыі Юры Равінскі, майстры Ян Засім і Ян Максімюк, шматгадовыя рабочыя Аляксандр і Кастусь Казлоўскія, Ян, Аляксей і Аляксандр Максімюкі, Сяргей Бандарук, Мікалай Харкевіч, сын Каленіка, Валянціна Кардаш, Феафанія Семянюк, Зіна Дрозд, Анатоль Мірановіч, Ян Саевіч, Сяргей Бірыцкі. Яны— з найлепшых.

На прадпрыемстве дзейнічае найбольшая ў гміне Нараўка пярвічная партыйная арганізацыя, якая налічвае 54 члены і кандыдаты. Сёлета ў рады партыі ўступіла шэсць чалавек. Арганізацыю ўзначальвае першы сакратар Пётр Карпюк. Апошнім часам партыйцы абмяркоўвалі справы: падзел жылых кватэр у новым блоку, паводзіны некаторых членаў партыі, найлепшае выкарыстанне кадраў, рэзервы на прадпрыемстве і іншыя.

Існуе на керамічнай таксама 26-асабовая маладзёжная арганізацыя, якую вядзе Ян Максімюк.

Члены абедзвюх арганізацый грамадскім пачынам пабудавалі цэнтр адпачынку на ўскраіне Старога Ляўкова: канцэртную ракавіну, спартыўныя пляцоўкі для корта і сяткоўкі, пасадзілі некалькі сот дэкаратыўных кустарнікаў.

Дырэкцыя фабрыкі падзяліла і перадала ў карыстанне 45 жылых кватэр у сваіх блоках. У фабрычных цэхах уводзяцца зараз коштам каля двух мільёнаў злотых сучасныя машыны, як ціскі з нагрузча-разгрузчымі агрэгатамі.

Пры ляўкоўскай керамічнай дзейнічае трыццаціасабовы беларускі хор „Цаглінкі“, які вядзе музык Аляксандр Лукашук.

Што дае фабрыка вяскоўцам? Перш за ўсё працу на месцы. Дзякуючы добрым заработкам ляўкоўцы і іншыя пабудавалі ўжо сабе мураваныя прыгожыя дамы і сельскагаспадарчыя агароджы, купілі розныя сельскагаспадарчыя машыны, а нават самаходы. У вёсцы наглядаюцца карысныя змены. Скора Ляўкова будзе вёскай мураванай.

**(яц)**

# Лічбы і факты

Лясы ў Польшчы займаюць 8 577 000 гектараў (27,4% геаграфічнай паверхні краіны) ў той час, калі ў Еўропе лясістасць у 31,4% і ў свеце — 28,4%. Значыць, у нас ніжэй гэтых сярэдніх. Старых бароў вельмі мала. Звыш 50% — гэта маладыя лясы, да 40 год. За апошнія сем гадоў найбольш лясоў ссечана ў Лодзінскім, Катавіцкім і Люблінскім ваяводствах, гэта значыць там, дзе ўвогуле іх найменш. На месцы былых лясоў пабудаваны шырокія магістралі, высокавольтныя лініі, новыя карпусы заводаў і фабрык, жыллёвыя пасёлкі.

**(яц)**

# ТРЫБУНА чытачоў

### ВЁСКА, ЯК ГОРАД

Вёска Дубіны, што ў Гайнаўскай гміне, ляжыць на шляху Гайнаўка—Беласток і ўжо спалучылася з горадам Гайнаўкай. Жыхары вёскі жывуць заможна. На ўласныя патрэбы маюць уласныя харчы, а грошы, патрэбныя на развіццё гаспадаркі, зарабляюць на прадпрыемствах горада. Вёска зусім змяніла свой выгляд. Многа мураваных дамоў, прыгожа агароджаных, вуліца асфальтаваная. У гэтым годзе праўленне гміны плануе праз усю вёску пралажыць тратуары.

Дубіны — не звычайная вёска, гэта вёска прыхадская. Тут царква, была калісь грамадская рада нарадовая. Ёсць пошта, школа, дзве крамы, бібліятэка, святліца, злеўня малака і некалькі паслуговых майстэрняў, між іншым, сталярская майстэрня, паслуговая спулдзельня працы — аддзел у Гайнаўцы. Даўжыня вуліцы ў вёсцы 2 км, тут 200 жылых дамоў. Часта збіраецца моладзь ды і старэйшыя на розныя мерапрыемствы. Прыходзяць людзі з іншых вёсак, такіх, як Пасталова, Савіны Груд, Бельшчына. Праз вёску едуць усе турысты ў Белавежу.

**Э. Вайсковіч**

### ГАСПАДАРЫЦЬ З ГАЛАВОЮ

Селянін Пётр Патэюк з вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны гаспадарыць з галавою. Гэта спецыяліст і спецыялізуецца ён у гадоўлі свіней. Многа свініны прадае дзяржаве. Ды не толькі гэта. Вось гэтай вясной залажыў сабе парнікі, дзе вырошчвае расаду і саджанцы на такую гародніну, як капуста, цыбуля, радыска, салата, памідоры. Таму ў яго першага паяўляюцца ранні, багатыя вітамінамі навінкі на стале.

**М. Панфілюк**

### ДОБРЫ ПАЧАТАК

На дарозе каля вёскі Тапаркі, Кляшчэлеўскай гміны, дзе ад давен-даўна быў развалены мосцік, аб чым некалькі разоў пісалася ў „Ніве", грамадскім чынам быў зроблены новы мосцік. Цэмбравіны на яго дала Кляшчэлеўская гміна. Цяпер бяспечна можна ехаць па гэтай дарозе.

Ініцыятарам гэтага карыснага пачыну з'яўляецца солтыс гэтай вёскі — Мікалай Барана. У працы найбольш дапамаглі такія сяляне, як Іван Троц, Данік Баравік, Дзмітры Барана, Сяргей Бакун і іншыя.

Мосцікаў, якія патрабуюць рамонту, яшчэ больш ёсць каля гэтай вёскі. Яны чакаюць сваёй чаргі, падобнага грамадскага пачыну.

**М. Панфілюк**

### ПАЯСНІЛІ СПРАВУ

У „Ніве" ад 18 сакавіка была надрукавана мая заметка „Што з сабакамі?", якая кранала праблему бяздомных сабак на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны. У пачатку красавіка я завітаў у гміну, а тут мяне прывітаў і сам начальнік. „Вось віноўнік, напісаў аб сабаках, дык няхай піша і адказ".

„Дык як жа з тымі сабакамі?" — пытаюся ў начальніка. „Рэдакцыя прыслала інтэрвенцыю, — уключаецца ў размову сакратар гміны. Я даручыў гэту справу кіраўніку сельскагаспадарчай службы. Ён і адкажа".

Папрасілі мы таго кіраўніка і ён прадставіў справу. „Сёння якраз я правёў размову, — пачаў Г. Васілюк, — з ваяводскім лекарам ветэрынарыі на гэту тэму. Праблема бяздомных сабак — гэта праблема ўсёй краіны. Яна выступае не толькі на вёсках, але і ў цэнтральных гарадах. І гэтага нельга вырашыць без удзелу саміх жыхароў вёсак і гарадоў. У нашым выпадку мы заўсёды прывядзем да парадку гаспадара, які не трымае сабаку на прывязі, ды нам трэба ведаць яго прозвішча. Інакш мы не зможам устанавіць уласніка бяздомнага сабакі. Калісьці ў Кляшчэлях быў гіцаль, які ездзіў і лавіў такіх сабак. А цяпер, як яго няма, пачалі гуляць на волі ўсялякія кундлі. Толькі пры дапамозе ўсяго насельніцтва зможам вырашыць справу".

Гэты заклік трэба, каб кожны прыняў да сябе. І дапамог на сваёй тэрыторыі ліквідаваць непажаданыя з'явы.

**Ул. Сідарук**

## ЯКАЯ Ж ПРАЎДА?

Прачытаў я адгалоску М. Панфілюка на сваю публікацыю ў 19 нумары „Нівы" ад 13 мая „Сапраўды нешта не так". І сумна мне стала, і крыўдна. Сумна таму, што адзін з маіх лепшых калег па пяру пахіснуўся. Мала таго, што загубіўся ў фактах, дык прабуе яшчэ з мяне зрабіць хлусніка. Ці ж гэта справядліва? Не разумею абароны М. Панфілюка і чаму ён сам сабе пярэчыць? А мо проста пераблытаў факты? Гэта ж праўда, што ён ехаў 1 лютага з Чаромхі ў Беласток праз Гайнаўку раніцай. Такая ж праўда, што цягнік з Седлец у Беласток а гадзіне 5.40 зусім не пайшоў і мы вымушаны былі дабірацца на з'езд карэспандэнтаў праз Гайнаўку. І факт, што цягнік ад'ехаў а 5.40 з Чаромхі ў Гайнаўку, а не, як піша Панфілюк, пасля сёмай гадзіны. Пасля сёмай мы ад'ехалі ўжо з Гайнаўкі белавежскім цягнікам у Беласток. І каб не было непаразуменняў, я яшчэ раз хачу сказаць тое, аб чым пісаў у сваім артыкуле: каб быць пэўным, спраўдзіў курсы цягнікоў у тую раніцу 1 лютага. І вось як было: М. Панфілюк сапраўды выбіраўся з хаты перад чацвертай, ён думаў ехаць у Беласток праз Чаромху, цягнікам, які прыязджае да нас па расписанню а 4 гадзіне раніцы (у той час спазніўся на паўгадзіны і прыйшоў а 4.30). Панфілюку трэба было чакаць сядлецкага поезда да 5.40. І ён пайшоў на станцыю. Што там убачыў, цяжка мне зараз сказаць. Фактам толькі застаецца, што мой сябра ўсяго 45-50 мінут там быў, а не, як піша, больш 3 гадзін. І ў тым цэлая справа.

А што датычыць маёй абароны „сваіх хлебадаўцаў", дык запрашаю паважанага сябру прыехаць у Чаромху і яшчэ раз праверыць факты ў чыгуначнікаў. Калі б я хацеў лашчыцца перад сваімі начальнікамі, дык „Ніва" не друкавала б маіх крытычных матэрыялаў пра чыгунку. (Глядзі „Казку для дарослых" ад 28 мая і іншыя). На мяне на станцыі глядзяць таксама, як і М. Панфілюк у апошні час. І наканец апошняе паясненне майму сябру. Я не хаваўся ў „цёплае памяшканне сваіх начальнікаў". Прыйшоў на станцыю а 5.25, і калі даведаўся, што цягнік Седльцы—Беласток не пойдзе, пабег званіць у Гайнаўку, каб даведацца, ці там зловім мы белавежскі цягнік на Беласток. А калі дзяжурны ў Гайнаўцы пацвердзіў, дык мы ўсе (я з сям'ёй, Панфілюк і два знаёмыя сакісты з Чаромхі пабеглі на гайнаўскі цягнік, бо дзяжурны ўжо адпраўляў поезд. Вось як мелася справа.

**Ул. Сідарук**

## З сяла Крывяцічы

Каля сяла Крывяцічы ёсць адрэзак непраезднай дарогі, якая ідзе на чыгуначны прыпынак Мора. Даўжыня гэтага куска дарогі каля 300 метраў. Па гэтай дарозе кожны дзень ідуць людзі і дзеці, якія даязджаюць у школы і на працу ў Гайнаўку ці Бельск. І трэба абавязкова грамадскім пачынам адрамантаваць гэту дарогу. Думаю, што сяляне павінны гэта зрабіць. Не будуць тады ламацца сельскагаспадарчыя машыны і людзям будзе лягчэй хадзіць. Сельсуполка ў Крывяцічах мае цяжкі гусенічны трактар і дэкларуе дапамогу ў раўнанні дарогі. Сялянам прыдзецца прывезці жвіру і разраўняць яго.

*

Зімою ў Крывяцічах былі паламаны дэкаратыўныя драўляныя плоцікі, якімі быў абсаджаны „зялёны астравок" каля мясцовай святліцы. Трэба яго давесці да парадку. І якраз моладзь грамадскім чынам павінна гэта зрабіць. Пры мясцовай святліцы і ў самой святліцы збіраецца многа людзей. І будзе прыгажэй, калі дрэўцы вакол будуць расці.

**Іван Кірызюк**

## Вёска шукае прадаўца

У Саках спажывецкая крама чакае прадаўца. Краму пабудавалі нядаўна, вялікую, і шкада, што ў нашай вёсцы няма ахвотных працаваць у ёй. Старанні ГС у Нарве, каб знайсці чалавека на гэту працу пакуль не далі вынікаў. А можа нехта з чытачоў захоча пагандляваць у прыгожай вёсцы? Інфармую, што даезд з Трасцянкі — 3 км цвёрдай дарогай, добры.

**Антолік**

### НА ВЯСЁЛАЙ У БЕЛАСТОКУ ГАРЫЦЬ ВЕЧНЫ АГОНЬ

Мінулая зіма ўсім нам даказала, колькі каштуе кілаграм вугалю. Ды мы — народ „абы на сёння".

У Беластоку на вуліцы Вясёлай № 9 стаіць пакінуты будынак. У ім калісьці рамантавалі нейкія машыны і прылады. У 1978 годзе майстэрню перавялі ў другое месца, а дом замкнулі на замок і пакінулі... асветленым. Гарыць там лямпка, найменш 500-ватавая, і выкідае грамадскія залатоўкі ў паветра. Хто не верыць, няхай пойдзе, паглядзіць. Тое, што яна гарыць, у нас не такое дзіва, але што гарыць столькі часу, вось гэта ўжо прымушае задумацца над пытаннем, якая ж гэта можа быць лямпачка? Ці ж не варта зрабіць рэкламу ёй? І фабрыцы, якая яе выпусціла, бо столькі ж часу гарыць? А бяздушнікам трэба было б заглянуць у кішэню, тады ўспомняць, што электрычнасць трэба ашчаджаць.

**Васіль Петручук**

### БЕЗ ТАКІХ НАЦЭНАК

У мінулым годзе буфет на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе быў заменены на спажывецкую краму. І гэта справядліва рашыў кляшчэлеўскі ГС. Ды адразу з'явілася праблема пастаўкі тавараў у гэту краму. У гэтую краму не даюць зусім мясных кансерваў. Порцыі мяса ці рыбы бяруць з мясцовага рэстарана і прадаюць з вялікай нацэнкай. Для прыкладу: кілаграм свежай каргулены каштуе 50 зл. а смажанай — 130 злотых. Значыць, работа пры смажэнні каштуе больш, чым сама рыба.

Трэба сказаць, што крама на станцыі ў Чаромсе працуе 16 гадзін. Спадзяемся, што будзе працаваць круглыя суткі. І з'яўляецца яна адным з важнейшых гандлёвых пунктаў. Таму гміна і ГС павінны паклапаціцца, каб тавары тут былі заўсёды адпаведныя і ў адпаведных цэнах. Гэтай крамай карыстаюцца шматлікія падарожнікі. Няўжо ўсім нам і ім трэба пераплачваць за ўсё ў сваёй краме?

**(ус)**

## На пункце скупкі ў Рыбалах

Я наведаў пункт скупкі жывёлы ў Рыбалах, гміны Заблудаў. На двары стаяла шмат вазоў, да якіх былі прывязаны каровы, а на вазах у клетках — свінні. Зайшоў я і ў хлеў на пункце скупкі, дзе ўбачыў таксама немалую колькасць вялікіх, добра адкормленых вепрукоў.

Зайшоў потым у кантору, застаў там працаўнікоў: Гражыну Здановіч, якая замяшчала загадчыка скупкі, класіфікатара і ваговага. Пытаў я, колькі штук і чаго яны ўжо прынялі, а была гадзіна дзесятая. Гражына Здановіч сказала: „Дагэтуль мы прынялі ўжо 27 штук свіней. Закончым прыём свіней, будзем прымаць кароў. На пляцы ёсць 10-15 штук іх, можа яшчэ падвязуць. А вось зімою мы прымалі на скупе па 30-40 штук быдла і 80-90 штук свіней у дзень".

Калі я выйшаў на панадворак, там налічыў 25 кароў. Многа гэта ці мала? Аб гэтым гаварыў з людзьмі, якія прыехалі з вёскі Цялушкі. Людзі гавораць, што цяпер, калі гаспадары часта пакідаюць сваю зямлю, зменшылася і колькасць жывёлы, гадаванай у гаспадарцы.

Працаўнікі рыбалаўскай скупкі скардзіліся, што вады на скупцы амаль няма. А справа ў тым, што бывае так, што купленую жывёлу адразу не забяруць і яна вымушана стаяць дзень-два, а то і больш на пункце скупкі. Трэба яе тады паіць і карміць. Студня ёсць, але вады з яе жывёла не хоча піць, бо нядобрая. Трэба выкапаць іншую ў іншым месцы. А прыносіць ваду здалёк цяжка. Калі, напрыклад, стаіць 20 штук кароў, дык трэба ім 40 вёдзер вады. А чаму ж бы не пампаваць ваду гумовымі вужамі ў спецыяльныя карыты? Трэба толькі купіць помпу, а гэтага няма каму зрабіць.

**М. Матвеюк**

### ЯЎГЕН ГАЎРЫЛЮК

На пошце ў Кляшчэлях працуюць тры пісьманосцы. Ды найлепшым з'яўляецца Яўген Гаўрылюк родам з вёскі Сакі ў Кляшчэлеўскай гміне, які сваю сумку на плячах носіць ужо чатыры гады і кожны раз яна набіта рознымі газетамі. Сярод іх таксама „Ніва". Усіх газет і часопісаў, выпісаных на гэты год, у яго больш 400 экземпляраў. Людзі ў вёсках, у якія прыходзіць, паважаюць яго. А гэта вёскі: Дабрывада, Сухавольцы, Залешаны і родныя Сакі.

Яўген Гаўрылюк вельмі салідны ў працы. Зіма ці лета — ён усё рэгулярна даручае. Паважае яго і начальства. Дырэктар акруговай пошты ў Гайнаўцы Мікалай Суліма асабіста хваліць яго. Яўген Гаўрылюк мае выпісаных 23 экземпляры „Нівы". Але ў размове са мною абяцаў, што падвоіць гэты лік, бо як сам кажа, 23 экземпляры — гэта мала, тым больш, што чытачы горнуцца да роднай газеты, ды і ён сам асабіста яе вельмі любіць. Веру, што гэты чалавек стрымае слова.

**М. Панфілюк**

### НЯМА НАЙВАЖНЕЙШАГА

Лячэбніца жывёлы ў Кляшчэлях мае добрую славу сярод сялян. Працуюць тут тры лекары ветэрынарыі, якія дасканала авалодалі сваёй прафесіяй. На жаль, не маюць яны ніякага службовага аўтамабіля тыпу „хуткай дапамогі", і каб ратаваць жывёлу ў селяніна, вымушаны рабіць гэта ўласнымі сіламі, гэта значыць наймаць прыватна машыну. У Кляшчэлях з тым не так лёгка, а калі жывёла хворая, дарагая кожная мінута. Для прыкладу падам, што ў селяніна з вёскі Тапаркі пахварэлі парасяты і пакуль кляшчэлеўскія ветэрынары прыехалі, было запозна і парасяты паздыхалі. Было гэта ў селяніна Пятра Патэюка.

Таму лячэбніца ў Кляшчэлях павінна мець абавязкова свой уласны самаход. Гэта паможа сялянам у гадоўлі жывёлы. Не ведаю, ад каго гэта залежыць, але кампетэнтныя ўлады павінны гэтым заняцца. І зноў жа для прыкладу падам, што лячэбніца ў Гайнаўцы ўжо даўно мае сваю „хуткую дапамогу". Дык чаму ж Кляшчэлі горшыя?

**М. Панфілюк**

## Наша пошта

**Дзмітры Слізень, Калабжэг.** „Я вымушаны прызнацца, што ў Беласток м не цягне. Там радзімай пахне. Намерваюся прыехаць, хочацца наведаць крыніцы беларускасці і пазнаёміцца з рэдакцыяй".

**Тамаш Кірылаў, Легніца.** „Хачу спытацца ў вас, ці ёсць значок БГКТ. Калі няма, то варта было б аб'явіць конкурс на праект такога значка. Варта зрабіць такі значок, каб яго насіць у кляпе касцюма. Я ахвотна буду насіць беларускі значок. У кіёсках „Руху" многа значкоў з гербамі гарадоў. Я хачу беларускі значок.

На жаль, і кніжку „Белоруссия и Россия" я не атрымаў з кнігарні ў Беластоку. Ужо ўсе прадалі. Гэта значыць, што замала беларускіх кніжак у Польшчы. Перадайце, калі ласка, каб іх запатрабавалі больш, тады хопіць і мне.

Сардэчныя і гарачыя прывітанні ўсім у рэдакцыі. Пры нагодзе перадайце прывітанні маім сябрам М. Панфілюку і Э. Вайсковічу. Дзякую за зменены выгляд графічны „Нівы". Лічу, што цана даступная ўсім, хто не лянівы".

**Э. Вайсковіч, Гайнаўка.** „Паважаны Тамаш Кірылаў! Як прыемна нам, беларусам, што вы, пражываючы далёка, не забылі беларускую мову і з'яўляецеся пастаянным чытачом нашай „Нівы". Заахвочваю вас стаць карэспандэнтам „Нівы". Цікава было б ведаць, што робіце ў Легніцы, дзе жывеце. Як вам і нам вядома, на вашых землях жыве многа беларусаў з Віленшчыны. Можа і яны ахвотна прачыталі б нешта пра сябе. Пісаць у „Ніву" можна і па-польску, калі цяжка па-беларуску. Я таксама так пачынаў. Лічу на тое, што ў будучым годзе сустрэнемся з вамі на з'ездзе карэспандэнтаў у Беластоку".

# Не ў рыбе справа

Сусед мне аднойчы кажа:

— Чаму ты не рыбак?..

— Смяешся, — адказваю, — яшчэ не хапала, каб і я марнеў гадзінамі ля ракі з-за акунькоў тых. Ды я табе колькі хочаш кілаграмаў...

— Э-э, пачакай, — спыняе мяне Пётр Сямёнавіч. — Вунь які нервовы зрабіўся. Нават размаўляць спакойна не можа. Кабінетная работа цябе, брат, зусім затлуміла.

— Дык што мне рабіць?! — крычу яму на ўсю моц. — Неспакойная ў мяне работа! Хоць разарвіся... Адзіны паратунак — у суботу і нядзелю тэлевізарам, газетамі і „казлом" душу адводжу. Сплю яшчэ...

— Пойдзем у выхадны на рыбалку, адразу пасвяжэеш.

— А ці вялікае вядро браць? — пытаюся я.

А Пётр Сямёнавіч спакойна кажа:

— Ты ніякага вядра не бяры. А вуда ў мяне знойдзецца. І ўсё астатняе.

— Так у нядзелю і апынуліся мы ля ракі. Разабраў я тую вуду. З дапамогай, канешне, Пятра Сямёнавіча. Закінуў. Гляджу на чырвоны паплавок — і смешна мне. Бо ні з месца паплавок! Быццам бы прырос да вады.

— Не клюе! — крычу праз мінуту суседу. — Паехалі дадому, нечага тут расседжвацца. Футбол па тэлевізары лепш пагляджу...

Але Пётр Сямёнавіч толькі ўсміхнуўся. Сядзім, чакаем невядома каго. І раптам — задзёўбала! І выцягнуў я маленькага акунька. Пярэстага. Жвавенькага такога... Мой настаўнік адчапіў яго акуратненька і зноў у раку шпурнуў.

— З чым жа я буду піва піць? — стаў пярэчыць я. — Ты ж мне ўсю рыбу так перавядзеш. І наогул, ці трэба было мне паказваць тут? Прыйдзеш дахаты з чым пайшоў...

— Не ў рыбе справа, — чую зноў спакойны голас Пятра Сямёнавіча. — Ты паглядзі вакол. Прыгажосць якая! Кветкі, дрэвы, цішыня... І блакітнае неба з такімі вунь лёгкімі белымі воблачкамі...

— Чаму ж ты раней мне не паказаў? — пачаў я.

Але потым прыглядзеўся, прыслухаўся. Браточкі вы мае родныя! Дзесяць, а мо пятнаццаць гадоў такой цішыні і прыгажосці не чуў і не бачыў. І кветкі, і дрэвы, і цішыня, і воблачкі тыя...

Па-шчырасці вам скажу: вельмі зацікавіла мяне першая рыбалка. Цяпер сабе не ўяўляю жыццё без ракі... З уловам як? Ды не ў рыбе справа. Галоўнае — не перажываю я па дробязях, нервы мае супакоіліся. А таму на рабоце — поўны парадак.

**В. Найдзін**



*З музыкальнага жыцця.*

# НІЎКА



MADE IN ZADRYPANKA

## Трымайце вуха!

### ХІТРЫ БАРСУК

Барсук па блату атрымаў бярлог,  
Хоць пахваліцца  
Ён нічым не мог:  
І дзетачак пакуль што  
не прыдбаў,  
І пра карысць грамадскасці лясной  
не дбаў.  
Да вепрука ён падкаціўся хітра,  
З кашолкай поўнай жалудоў  
прыйшоў,  
Бярозавіку выпіў з ім тры літры.  
Пад лыч падкінуў —  
пад губой знайшоў.  
Вышэй вушэй  
Барсук падскокваў, горды,  
Што адхапіў удала гэтак  
ордэр,  
Які была павінна атрымаці  
Мядзведзіца —  
З трайнятачкамі маці.  
Мядзведзіца ж  
раўла ад крыўды горкай,  
Калі падсунулі ёй  
Барсукову норку.

**Пятро Сушко**

З „Весніка Задрыпоніі"

### САКРЭТЫ МАЙСТЭРСТВА

За час сваёй даносчыцкай кар'еры ананімшчык Храпа 3452 разы плявузгаў на А. А. „Творчасць ананімшчыка, — расказваў ён на аўтарскім вечары, — гэта паўсядзённае моташнае самаачышчэнне".

### ДЭВІЗ ХАПУНА

Былі б магчымасці, а жаданні заўсёды знойдуцца.



*Чаго ў спорце не бывае!*



**— А Праўда голая! — крычала нічым не прыкрытая Хлусня.**

### ДЛЯ ПУБЛІКІ

— Навошта ў праграму вечара ўключылі яшчэ і танцы, хіба не досыць таго, што я свае вершы прачытаю? — здзіўляецца паэт Салавейчык.

— Але ж і для публікі трэба зрабіць нешта прыемнае, — адказаў загадчык клубам.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## Pierwszy siwy włos

**Słowa: Kazimierz Winkler**  
**Muzyka: Henryk Jabłoński**

Babie lato wokół płynie przez jesienny park,  
z dala ktoś na mandolinie kołysankę gra.  
Chodźmy, miły(a), pod nasz stary dąb.  
Jakże kocham ciepło twoich rąk.  
Pomyśl, ile to już lat idziemy przez ten świat.

Spostrzegłam dzisiaj pierwszy siwy włos na twojej skroni  
i widzisz, miła(ły), przed wzruszeniem trudno się obronić.  
Mam przecież w oczach dzień, gdy pierwszy raz ujrzałam(łem) ciebie.

Pamiętam każde słowo, każdy uśmiech twój.

Czas nie ostudzi ludzkich serc, gdy mocna miłość płonie.  
Całuję pierwszy siwy włos, co zalśnił na twej skroni.  
Tak piękną mamy jesień, miły, cichą i pogodną.  
Spójrz, jak babiego lata płynie srebrna nić.

Jak obłoki dwa łabędzie przecinają staw.  
Człowiek zawsze wracać będzie do lirycznych spraw.  
Chodźmy, już się kryje słońca blask.  
W domu dzieci oczekują nas.  
Pomyśl, ile to już lat idziemy przez ten świat.

Spostrzegłam dzisiaj...

## Гумар з барадою

### ЧУЖОЕ І СВАЁ

На вуліцы балакаюць жанчыны. Раптам з-за плоту выбегла свіння.

— Ой, люданькі, чыя ж гэта такая вялікая свіння? Ды яшчэ і рые. Чаго добрага, маю хату падрые! Каб ёй у рыла сем цыганскіх іголак, праклятай!

— Соня, дык гэта ж твая.

— Ой, горанька! І сапраўды маё парасятка. І як яно, малюсенькае, вылезла з хлява?

### ДА КАГО

— Да каго пасуе прыказка „Круці не круці, а трэба памерці?" — пытае настаўнік Міколку.

— Да шафёра, — адказвае той.

### МІКОЛКА

Міколка да сябра: — Мой брат на школьных спаборніцтвах прабег два кіламетры за адну мінуту.

— Не выдумляй! Гэта вышэй сусветнага рэкорда.

— Але ж ён ведае самую кароткую дарогу!



*— Няўжо так баліць?*



*Без слоў.*

### ГАПЧЫНА ЛОГІКА

У перапоўненым аўтобусе Гапка ўжо хвілін пяць бурчыць: то ёй нехта на нагу наступіў, то яе штурхнулі, то яшчэ нешта не так.

— Ды досыць ужо вам сквірчэць! — не вытрымаў урэшце адзін з пасажыраў.

— Як гэта „сквірчэць"? — абурылася Гапка. — Што я вам, высквара? Ці, можа, сала на патэльні?.. Грамадзяне, — крычыць яна на ўвесь аўтобус, — будзьце сведкамі — ён мяне свінnёю абазваў!..

# Курёзы

### САБАЧАЕ ШЧАСЦЕ

Зборшчыка аўтамабіляў у амерыканскім горадзе Вудхейвене па прозвішчу Оупэт звальнялі шмат разоў, і ён вырашыў ашукаць адміністрацыю кампаніі Форд: скарыстаўшы момант, калі праз прахадную рухалася адразу многа людзей, ён замест пропуска паказаў ахоўніку картку беспрацоўнага і пайшоў у цэх. Стаўшы да канвеера, ён на працягу трох дзён не выходзіў з тэрыторыі завода, працаваў так самааддана, што ўсе дзівіліся. Але цэхавае начальства ўсё ж выкрыла яго на чацвёрты дзень. Калі ў яго запыталі, навошта ён такім чынам прабраўся на завод і на што разлічваў, Оупэт адказаў: „Я спадзяваўся, што ўбачыўшы, які я кваліфікаваны спецыяліст, вы ацэніце гэта і дасце мне пастаянную работу..."

Каб не падняўся шум пра разявацтва аховы на заводзе, адміністрацыя выплаціла Оупэту заробак за тры дні і нават паабяцала з цягам часу залічыць яго на работу.

Другі амерыканскі рабочы транспартнік Лары Вагнер, які жыве ў горадзе Калумбусе, праскочыў на працу больш дасціпна. На прыёме ў гаспадара адной транспартнай фірмы ён назваў сябе не сваім уласным іменем, а сабачай клічкай. Але хутка пра гэта даведаліся. На прадпрыемстве ўсе рагаталі. Толькі самому Вагнеру было не да смеху. Абражаны гаспадар прыцягнуў манюку да суровай адказнасці, і суд прымусіў яго вярнуць усе гаспадарчыя страты і заплаціць штраф.

## Смяецца нам!

**Паспрабуйце смяяцца апошнім, калі анекдоты расказвае твой непасрэдны начальнік.**